

№ 13 (126)
Красавік 2006 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:





## Краязнаўчы семінар у ліцэі

***У Лунінецкім ліцэі ў студзені гэтага года адбыўся семінар на тэму «Грамадзянскае выхаванне праз краязнаўства». Арганізавалі яго раённае «Таварыства беларускай школы» і навукоўцы педуніверсітэта імя М. Танка разам з адміністрацыяй і педагогамі ліцэя. Дырэктар ліцэя А.Г. Кулага прывітала ўдзельнікаў.***

Выступленнем «Грамадзянскае выхаванне і Лунінеччына» распачаў працу семінара Алесь Лозка, дацэнт кафедры этналогіі і фалькларыстыкі БДПУ імя М. Танка. Расказаўшы пра мінулае і сучаснае, пра поспехі і задачы краязнаўства Лунінеччыны, ён сцвярджальна заявіў: «Маладой незалежнай беларускай дзяржаве вельмі патрэбна развіццё краязнаўства, якое найлепшым чынам працуе на нацыянальна-патрыятычнае выхаванне, фарміраванне асобы грамадзяніна».

На семінары прагучалі даклады на тэмы: «Развіццё і сучасны стан краязнаўства ў Лунінецкім раёне» В.В. Жылко, навуковага супрацоўніка Лунінецкага краязнаўчага музея; «Дзе прайшло маленства, там пачынаецца Радзіма» І.А. Панасюка, настаўніка беларускай мовы Лунінецкай СШ № 2; «Ведай свой край (фарміраванне ў вучняў цэласных уяўленняў аб мінулым нашага краю: накірункі, формы і метады краязнаўчай работы)» С.П. Нефідовіча, пісьменніка і краязнаўца Лунінеччыны; «Каб не парвалася сувязь пакаленняў» М.М. Барычэўскай, настаўніцы гісторыі Дзятлаўскай СШ; «Этнашкола – стваральніца і транслятар нацыянальнай ідэі» В.К. Ільючык, настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Баганаўскай СШ; «Выхаванне праз краязнаўчую работу» Я.І. Хвастова, настаўніка гісторыі Вялікачучавіцкай СШ. Ён прапанаваў практычна распрацаваную на педагагічна-навуковай аснове ідэю для стварэння праграмы «Выхаванне праз краязнаўства». Яго пазіцыю можна выкарыстаць пры распрацоўцы канцэпцыі па краязнаўчым выхаванні мясцовага, раённага і г.д. узроўняў.

Усе тэмы дакладаў прагучалі вельмі надзённа. Вадзім Жылко цікава расказаў пра геаграфічныя, гісторыка-этнаграфічныя і культурныя асаблівасці рэгіёна, пра мінулае і сучаснае, пра цяперашніх краязнаўцаў, пра выданне і перавыданне краязнаўчых кніг і падкрэсліў важную ролю беларускай мовы ў грамадзянскім выхаванні.

І. Панасюк, С. Нефідовіч, Я. Хвастоў – вопытныя практыкі краязнаўства падзяліліся слушнымі думкамі, назіраннямі. Вось некаторыя з іх: «Словы «бацькаўшчына», «родны край», «малая радзіма» маюць асаблівае гучанне і гэта трэба абавязкова давесці дзецям» (Панасюк); «Далучэнне вучняў да культурна-гістарычнай спадчыны сваёй Радзімы – важны сродак фарміравання нацыянальнай свядомасці» (Нефідовіч); «Краязнаўства заклікана быць арыенцірам у выхаванні гістарычнай памяці народа, яго нацыянальнай самасвядомасці, павагі і беражлівасці да роднай прыроды» (Хвастоў).

Апантаныя аматары збірання даўніны М. Барычэўская, В. Ільючык расказалі пра сумесную з вучнямі краязнаўчую працу ў спалучэнні з сістэмаю «этнашколы», пра адраджэнне народных святаў і пра шмат што іншае. Аўтар гэтых радкоў расказаў пра універсітэт і спецыфіку кафедраў свайго факультэта. Аксана Спрынчан, паэтэса і вядучы навуковы рэдактар выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя», расказала пра першы том энцыклапедыі «Беларускі фальклор» і падаравала землякоў вершамі, прысвечанымі Лунінеччыне.

На семінары была выказана трывога, што сабраны краязнаўчы матэрыял часцей за ўсё ляжыць незапатрабаваным у рукапісных тамах і што сучаснае беларускае радыё і тэлебачанне далёкія ад традыцыйнай культуры рэгіёнаў. Адзінай тэлеперадачай «Падарожжа дылетанта» краязнаўчыя праблемы нельга вырашыць.*

Закончыўся семінар вясёлым канцэртам «Зорны россып ліцэйскіх талентаў» з удзелам узорнага ансамбля «Сунічка» з вёскі Вулька-1.

*Яўген АДАМОВІЧ,*
*дацэнт кафедры мастацкай і педагагічнай адукацыі факультэта народнай культуры БДПУ імя М. Танка*

* Пры падрыхтоўцы матэрыялу да друку стала вядома, што нашага «дылетанта» Юрыя Жыгамонта з яго краязнаўчымі падарожжамі выключыла з эфіру новае кіраўніцтва Белтэлерадыёкампаніі.

### З народнага календара

*7/25 красавіка. Благавешчанне (Дабравешчанне, Звеставанне).* Як і на кожнае свята, на яго забаранялася што б там ні было рабіць: «На Благавешчанне дзеўка косу не пляце, птушка гнязда не ўе». Праваслаўная царква адзначала зачацце Маці Божай Ісуса Хрыста. У народзе свята мела старажытныя карані, яно лічылася днём надыходу вясны. Шмат дзе якраз ад Благавешчання (а ў некатoрых мясцовасцях нават раней, у залежнасці ад традыцый і, вядома, ад надвор'я) адбывалася Гуканне вясны.

*Дабравешчаннiко святое,*
*Пашлі сонейка залатое,*
*Каб зямелька адышла*
*Ды вясна да нас прыйшла,*
*Каб распусціліся ветачкі.*
*Каб раскраснеліся кветачкі,*
*Каб лугі зазеляненіся,*
*Нашы нівачкі адзеліся.*

Дзяўчаты ўсёй вёскі выходзілі куды-небудзь на ўзвышша і спявалі, пакуль не сцямнее, вяснянкі. Далятaлі звонкія галасы і з суседніх вёсак. Сялянам хацелася верыць, што наступны гаспадарчы год, які з гэтага дня пачынаецца, прынясе багаты ўраджай, шчасце ў дом. Часта на Благавешчанне згадвалі птушак. Адны гаварылі, што ў гэты дзень бусел прылятае, другія – што ён кладзе яйка ў гняздо. «Як за тыдзень да Благавешчання прыляцяць бусел, то ў свірне на засек трэба дошку накладваць – поўна пашні будзе, добры ўраджай, а як пасля Благавешчання – то трэба знімаць дошкі, бо не засыплеш поўных засекаў». І хаця па вёсках шчыра гукалі вясну, не заўсёды яна з'яўлялася, таму канчаткова развітвацца з зімою было ранавата: «Да Благавешчання зіму не лай і сані трымай». Пасля свята дазвалялася ўрабляць зямлю пад новыя пасевы (да гэтага часу зямля спіць, і чапаць яе няможна). Як спявалася ў народных песнях, «Благавешчанне – араты на ніву... і каня вядзець, і саху нясець, заворваець».

Благавешчанне было вехаю ў прадбачанні надвор'я. Калі свята аказвалася цёплым, селянін мусіў чакаць марозную восень, і наадварот, снег, што заляжаўся да гэтае пары, абяцаў цёплую восень. Па асаблівасцях гэтага дня рабіліся прагнозы на ўраджай. Як на Благавешчанне дождж – збярэш багата хлеба; калі суха, то летам магчыма засуха. Умеранае надвор'е – умеранае будзе лета і такі ж умераны ўраджай. Гаварылі, што такое ж надвор'е, як на Благавешчанне, павінна паўтарыцца на Вялікдзень.

*Паводле Уладзіміра ВАСІЛЕВІЧА*



*Фота Міколы КОТАВА*







# Жывыя крыніцы

З 6 сакавіка па 3 красавіка б.г. ў залах Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі праходзіць II Нацыянальная выстаўка народнага мастацтва «Жывыя крыніцы», правядзенне якой Міністэрства культуры падрыхтавала сумесна з Беларускім саюзам майстроў народнай творчасці.

Галоўная мэта выстаўкі – адлюстраванне сучаснага стану, асаблівасцей і праблем бытавання напрамкаў развіцця народнага мастацтва, традыцыйных мастацкіх промыслаў і рамёстваў, вызначэнне асаблівасцей і характару зменаў у гэтай галіне нацыянальнай культуры за апошняе дзесяцігоддзе, актывізацыя адраджэння і развіцця рэдкіх і забытых рамёстваў і промыслаў, стымуляванне працэсу пераемнасці традыцый.

У выстаўцы прымаюць удзел каля 500 майстроў (амаль 2 000 экспанатаў) з усіх рэгіёнаў Беларусі, творы якіх прадстаўляюць практычна ўсе віды народнага мастацтва і мастацкіх рамёстваў: дрэваапрацоўку, ганчарства, кавальства, пляценне з прыродных матэрыялаў, аплікацыю, мастацкі роспіс, карункапляценне, ткацтва, вышыўку, выцінанку, вырабы са скуры, бяросты, бісеру і інш. Адбор экспанатаў праводзіўся на абласных выстаўках народнага мастацтва, якія прайшлі ва ўсіх абласных цэнтрах у час правядзення фестывалю народнага мастацтва «Беларусь – мая песня». Значную частку работ прапанаваў таксама Беларускі саюз майстроў народнай творчасці, які аб'ядноўвае каля 500 лепшых майстроў нашай краіны.

У аснову экспазіцыі выстаўкі пакладзены рэгіянальны прынцып. Гэта дае магчымасць зрабіць параўнальную характарыстыку сучаснага народнага мастацтва на ўсёй тэрыторыі Беларусі, выявіць яго асаблівасці, характар, маштабы бытавання, рэгіянальныя адметнасці. Асобны раздзел складаюць станкавыя творы самабытнага (наіўна-рэалістычнага, інсітнага) характару, якія вызначаюцца не рэгіянальнай, а ярка індывідуальнай адметнасцю.

Экспазіцыя сведчыць, што за перыяд, які прайшоў ад I Нацыянальнай выстаўкі (1998), уздым цікавасці грамадства да набыткаў традыцыйнай культуры прывёў да адраджэння многіх яшчэ нядаўна практычна забытых відаў народнай мастацкай творчасці. Гэта ярка дэманструюць адроджаныя на новым, сучасным узроўні выцінанка, мастацкае кавальства, традыцыйныя віды вышыўкі, тэкстыльная мазаіка, роспіс па шкле, вырабы з бяросты, скуры і інш.



Прадаўжаецца працэс пашырэння новых формаў перадачы і пераемнасці традыцый. Ранейшыя (на ўзроўні сям'і, ад бацькоў да дзяцей) актыўна дапаўняюцца новымі, «арганізаванымі» формамі: гурткамі, студыямі, школамі, вучылішчамі, семінарамі і інш. Асаблівую папулярнасць і пашырэнне набываюць Дамы рамёстваў.

Рэспубліканскае журы вызначыць лепшых майстроў, якім будзе прысвоена званне лаўрэатаў выстаўкі з уручэннем дыпломаў лаўрэатаў, а ўсім удзельнікам – дыпламантаў.

Па выніках выставы будзе выдадзены каталог.

*Наш кар.*

## Дзеці шануюць Кандрата Крапіву

У Мінскім дзяржаўным турысцка-экалагічным Цэнтры дзяцей і моладзі 23 сакавіка 2006 г. вучні мінскіх гімназій і школ сустрэліся з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі, сваякамі і блізкімі людзьмі народнага паэта Беларусі Кандрата Крапівы. Сустрэча была прымеркавана да 110-годдзя з дня нараджэння Кандрата Кандратавіча.

Пасля выступленняў гасцей з вуснаў дзяцей загучалі вершы, байкі, гумарэскі і загадкі нашага класіка. Гэта было сапраўднае свята як для гасцей, так і для дзяцей.

Сустрэчу арганізавала і вяла метадыст Цэнтра і стваральнік музея баявой славы Ала Пятроўна Купрэйчык. Хочацца менавіта ёй ды кіраўніцтву Цэнтра падзякаваць: пабольей бы такіх мерапрыемстваў, дзе ўхваляюцца нацыянальныя славутасці, дзе гучыць наша родная беларуская мова.

*Наш кар.*



*На здымку: А.П. Купрэйчык (у цэнтры) знаёміць гасцей з экспазіцыяй музея.*

## Сучасныя беларускія краязнаўцы

### Матэрыялы да слоўніка

**Саук** Антон Уладзіміравіч (н. 13.02.1968, г. Ліда), працуе будаўніком. Скончыў Беларускую дзяржаўную палітэхнічную акадэмію (1993). Да краязнаўства далучыўся ў дзяцінстве. Настаўнікам лічыць В. Слюкіна. Вывучае славутыя імёны і помнікі Лідчыны.

**Саўлкіна** Ася Данілаўна (н. 11.11.1936, г. Віцебск), старшыня Рэгіянальнага мемарыяльна-культурнага грамадскага аб'яднання ў Лідзе. Скончыла Беларускі лесатэхнічны інстытут (1960). Вывучае гісторыю яўрэяў Лідчыны, месцы пахавання ахвяраў Халакосту.

**Сахута** Яўген Міхайлавіч (н. 15.02.1945, в. Вечатарова Стаўбцоўскага р-на Мінскай вобл.), доктар мастацтвазнаўства (1996), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь (1996). Працуе ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі. Арганізатар і старшыня Беларускага саюза майстроў народнай творчасці. Скончыў Віцебскі пnative інстытут (1972). Краязнаўчую дзейнасць распачаў у 1971 г. у час працы настаўнікам сельскай школы. Даследуе традыцыйную матэрыяльную і духоўную культуру беларусаў. Аўтар манаграфій па народнаму мастацтву і мастацкіх рамёствах.

Тв.: Старонкай роднаю: Мн., 1975.

**Світо** Франц Іосіфавіч (н. 26.02.1928, в. Уздрыгалавічы Мядзельскага р-на Мінскай вобл.), кандыдат медыцынскіх навук (1968), урач Мінскай абласной станцыі пералівання крыві ў Маладзечне. Скончыў Мінскі мед-інстытут (1954). Вывучае гісторыю аховы здароўя і медыцыны на Маладзечыншчыне. Краязнаўствам займаецца з 1967 г. Сваім настаўнікам лічыць Р. Герасімовіча, Г. Каханоўскага, В. Ляшковіча.



*Ф. Світо*

**Семянчук** Генадзь Мікалаевіч (н. 06.10.1963, г. Ваўкавыск Гродзенскай вобл.), кандыдат гістарычных навук (1993), дацэнт Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта, які скончыў у 1985 г. Вывучае гісторыю і культуру Ваўкавыскага і Браслаўска-Дзісенскага рэгіёнаў. Краязнаўствам займаецца з 1982 г. Настаўнікамі лічыць М. Ткачова, М. Чарняўскага, Я. Звяругу. Старшыня Ваўкавыскага краязнаўчага таварыства.

*Ліст у рэдакцыю*

## Пра выданне хронікі «Памяць»

Паважаная рэдакцыя!

У № 8 Вашай газеты змешчаны артыкул Уладзіміра Бурачонка аб прыкрых памылках, дапушчаных падчас выдання хронікі «Памяць».

На вялікі жаль, недапрацоўкі і памылкі маюцца і ў выданні па нашым Шаркаўшчынскім раёне. Папрок трэба адрасаваць раённай камісіі, бо мноства памылак можна было б пазбегнуць, калі б сігнальны экземпляр кніжкі быў абмеркаваны сярод мясцовых краязнаўцаў. Атрымаўшы выданне, я з першага прачытання ўнёс 180 паправак і ўдакладненняў. Ды толькі яны цяпер ужо былі нікому не патрэбны: «Пасля драки кулаками не машут».

І ўсё ж пазнанне свайго роднага краю патрабуе працягу. Дзесяткі вяскоўцаў пакрыўджаныя, што іх родзічы, якія ваявалі і загінулі, неназваныя ў кніжцы. Асабліва з тых сёл, якіх ужо няма на карце. Без дзяржаўнай падтрымкі ідэі хронік «Памяць» мы многае страцім з таго, што яшчэ можна зафіксаваць.

Удзячны за Вашу работу на ніве краязнаўства.

*Уладзіслаў ЛЯСКОЎСКІ*

**Ад рэдакцыі.** Усе 180 паправак і ўдакладненняў да выдання хронікі «Памяць. Шаркаўшчынскі раён» аўтар ліста даслаў у «КГ». У сувязі з тым, што рэдакцыя выдання ўжо ліквідавана, «КГ» звярнулася з запытам у Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, якое паведаміла, што шэраг выданняў хронікі «Памяць» сапраўды патрабуе значных змен. Вялікая колькасць заўваг ад чытачоў паступала і працягвае паступаць у розныя інстанцыі: ад райвыканкама да Міністэрства (як бачым – і ў «Краязнаўчую газету»).

Пакуль не прынята канчатковага рашэння, якім чынам будуць выпраўляцца дапушчаныя памылкі. Таму ёсць такая парада: дасылаць свае заўвагі, удакладненні, дапаўненні ў адпаведныя (ідэалагічныя) аддзелы райвыканкамаў, якія павінны збіраць гэты матэрыял, пры неабходнасці ўносіць прапановы па прыняцці рашэння.

Адно зразумела для ўсіх інстанцый: неабходнасць такой работы наспела.



*Ручнік-абярэг Парасці Белавус з-пад Дзісны Мёрскага раёна з выявамі Берагіні і Вясны-Лады, ідыяграмай вады.*

*Са збору Сяргея ПАНІЗЬНІКА*







Паляшук з сявенькай (1937 год)

## *Кароткі слоўнік* краязнаўча-прававой тэрміналогіі *беларускай старажытнасці*



**(Пачатак у № 3 за 2005 г.)**

**ПАДДАНЫЯ** (подданыя) – пры феадальным і буржуазным ладзе назва залежных манарху як уладару дзяржавы, а таксама сялян, што падпарадкоўваліся феадалам. На Беларусі падданымі называлі прыгонных сялян. У розных актах называюцца «айчызныя» (отчыны), прымацаваныя да вотчыны і маёнткаў, а таксама «пахожыя» або «вольныя», якія мелі права вольнага пераходу. Падданства азначала амаль поўную адсутнасць правоў у сялян і некаторыя абмежаванні правоў мяшчан. Падданы ў многім падпарадкоўваўся дзяржаве: просты – гаспадару, гаспадар-феадал – кіраўніку дзяржавы. Тэрмін «падданы» ужываўся ўжо ў Статуце ВКЛ 1529 г. Пазней прадугледжвалася, каб шматлікія справы падданых разглядаліся не ў Польшчы, а менавіта ў ВКЛ. У Статуце 1566 г. ёсць заўвагі, што каталікі могуць быць «падданыя Рымскаму касцёлу». Вызначэнне тэрміна «падданы» ёсць і ў Статуце ВКЛ 1588 г.

**ПАДКАМОРСКІ СУД** – прыкладна з 1566 г. спецыяльны судова-адміністрацыйны орган у ВКЛ, які разгледжваў зямельныя спрэчкі феадалаў. Справы ў ім разглядаў адзін суддзя – падкаморы, які прызначаўся вялікім князем. Гэты службовец выслухоўваў тлумачэнні бакоў, правяраў дакументы і іншыя доказы, акрэсліваў на мясцовасці межы землеўладання і са сваімі памочнікамі – каморнікамі – вызначаў межавыя знакі. Гэтае рашэнне магло быць абскарджана ў вялікакняскім судзе ці ў Трыбунале ВКЛ. Рашэнні падкаморскага суда заносіліся ў кнігу земскага суда. Іскі бакоў аб праве землеўладання не былі кампетэнцыяй падкаморскага суда і разглядаліся земскім судом, а спрэчкі аб межах паміж землеўладальнай шляхтай і вялікім князем – камісарскім судом. Падкаморскія суды дзейнічалі да XIX ст.

**ПАДКАМОРЫ** – службовец у ВКЛ, звычайна буйны феадал, які адказваў за парадак і ўбранне ў пакоях вялікага князя, быў яго дарадчыкам і ўваходзіў у склад Рады ВКЛ. Падкаморы павятовы разглядваў зямельныя спрэчкі паміж шляхтай у падкаморскім судзе, браў удзел у разглядзе спраў у каптуровым судзе. Прызначаўся вялікім князем з 4 кандыдатаў, якіх выбірала шляхта на павятовым сейміку. Такую пасаду давалі толькі шляхціцу-хрысціяніну, ураджэнцу ВКЛ, які валодаў маёнткам у павеце, быў юрыдычна адукаваны. Ён прызначаў з мясцовай шляхты памочнікаў – каморнікаў, якія вымяралі спрэчныя землі, а таксама па яго даручэнні разглядалі іншыя, у тым ліку і дробныя, справы.

**ПАДКАНЦЛЕР** – з 1566 г. у ВКЛ намеснік канцлера, службовец, які захоўваў малую дзяржаўную пячатку. Вялікую дзяржаўную пячатку захоўваў канцлер і не заўсёды меў права самачынна пакінуць сталіцу ВКЛ.

**ПАДКАНЮШЫ** – службовец у ВКЛ, намеснік канюшага. З XVI ст. ганаровы тытул.

**ПАДПІСАК** – памочнік пісара ў земскім судзе. Павінен быў паскараць працэс пісьмаводства.

*Факультатыў*

# Свет ад травы да зор

***Цыкл урокаў «Беларуская паэзія: сістэма вобразаў прыроды, паэтыка пейзажу»***

***Вобразы вясны, вясновыя матывы займаюць адно з галоўных месцаў у вуснапаэтычнай творчасці. А калі зірнуць глыбей, у старажытнай міфалогіі беларусаў, увогуле славян. Уклад жыцця нашых продкаў быў вельмі цесна звязаны з зямелькай-карміцелькай, яе пладаноснасць, урадлівасць напрамую залежалі ад прыроды, яе спрыяння. Абуджаная зямля, вясновае сонца былі прадвеснікамі новага земляробчага года, яны выклікалі ў чалавечай душы і радасць, і хваляванні. Невыпадкова ў народзе да нашага часу кажуць: «Вясна год корміць». Альбо: «У сакавіку зіма не гніе – у красавіку трава не расце», «Як у сакавіку туман, дык у жніво дождж – пан!», «У красавіку грымот – будзе цёплы год», «Май халодны, год хлебародны» і інш.***

## «Ідзі, вясна, красуйся...»

Вясна як вобраз-сімвал выступае ў старажытнай беларускай паэзіі. Вясновае адраджэнне прыроды звязваецца з духоўным абнаўленнем у творах Кірылы Тураўскага. У сваім «Слове на Вялікдзень» праз вобразы вясны, сонца, якое саграе зямлю, ён паэтызуе свята Хрыстова Уваскрэсення. Паэт-прапаведнік жадае дапамагчы чалавеку адшукаць душэўную апору, вечны быційны сэнс свайго прызначэння на зямлі. Эмацыянальна-пранікнёна, узнёсла гучыць слова беларускага Златавуста: «И земля семена питающи зеленую траву ражаеть. Весна убо красная есть вера Христова...» Красаванне вясны нібы пазбаўленне ад душэўнага холаду, цемры, яна растапляе зімовы лёд няверʼя і кліча да мацавання духу, пакаяння і веры.

У рэлігійна-філасофскім, алегарычным ключы таксама раскрывае свет вясновай прыроды Сімяон Полацкі. Сонца атаясамліваецца ім з вобразам Хрыста-Збавіцеля, супрацьпастаўляецца цемры і холаду. Вясна для паэта – дарунак Божы, увасабленне святла, духоўнай лагоды і вечнага жыцця: «Тем весны чувственныя носим знамение – / зелености во духовны весны явление»; «А занеже зеленость вечность знаменает...»

Як відаць, яшчэ са старажытнасці вясна будзіла эмоцыі паэтаў, якія, услаўляючы яе, бачылі ў моцы вясновага сонца вялікі стваральны пачатак.

Вясновыя малюнкі ў паэзіі XIX стагоддзя нешматлікія. І гэта зразумела: беларуская пейзажная лірыка на той час знаходзілася на шляху станаўлення. Захапленне вясновым хараством вельмі адчувальнае ў паэзіі Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. «Прырода ў вясновых абдымках» паўстае ў яго вершы «Вясна!». Паэт зніто́ўвае вясновы краявід і ўнутраныя перажыванні, ягоная душа адгукаецца самай чыстай і радаснай лірычнай нотай:

*Жаўруча, сіняй вясны*
*вястуне!*
*Высока ў неба, малы, узбіся,*
*Збудзі прыроду,*
*жыцця пяюне,*
*Удзячнай песняй з высяў.*
*(Пераклад*
*С. Сокалава-Воюша)*

В. Дунін-Марцінкевіч – адзін з першых паэтаў, хто прачула паэтызаваў хараство родных краявідаў, імкнуўся выявіць свет душэўных перажыванняў праз вобразы прыроды.

У беларускай паэзіі XIX стагоддзя вясна абмалёўваецца ў духу фальклорнай паэтыкі. Але разам з тым сустракаецца і выразная індывідуалізаванасць аўтарскага пачуцця, як, да прыкладу, у наступных радках Янкі Лучыны:

*Жураўлі ўжо лятуць*
*з крыкам звонкім – ключом,*
*Кінуў вырай кулік,*
*чайка недзе скігліць,*
*А ўсё сівер як дуў,*
*дзьме па полі па том,*
*Гул па лесе ідзе:*
*«Яшчэ летку – не быць!»*
*Ой ты, доля мая! –*
*так, як гэта вясна.*
*Да мяне ты не йдзеш, –*
*хоць дайно бы пара!*
*(«Вясна»)*

Вобраз вясны ў паэтычных творах мінулага стагоддзя далёка не заўсёды паэтызуецца, выклікае замілаванне. Прырода нібы не жадае спрыяць чалавеку ад самага нараджэння, адразу выпрабоўвае яго на жыццястойкасць. Але Ф. Багушэвіч верыць у прыроджаную трываласць духу беларуса, бачыць чуйнасць ягонай натуры. Вось як герой паэмы «Кепска будзе!» Аліндарка ўспрымае абуджэнне прыроды:

*А і слоначка прыгрэла,*
*Аж мне ў душы паяснела.*
*Да палудня ішлі гэтак,*
*Пры дарозе шмат і кветак:*
*То пралескі, то сасонка,*
*Выгравае божа слонка!*

Гэтыя радкі любавання вясновай прыгажосцю высвечваюць увесь драматызм душы зняволенага маладога хлопца, які так моцна любіць свабоду і жыццё. І ўсё ж Ф. Багушэвіч у сваёй паэзіі найчасцей спачувае селяніну, бо бачыць пакуты ягонага жыцця: «Той ў мяцеліцу, ў марозе... У снягу увесь па брух!» Перад ім нібы заслонены свет вясновага хараства, і гэта можна зразумець. Аднак на душы робіцца і нейк сумна: няўжо прырода маўчала, няўжо яе жывая паэзія не хвалявала чалавечае сэрца? У Янкі Лучыны сустракаем антыномію «зіма – вясна», якая таксама выяўляе сацыяльны кантраст жыцця, рэчаіснасці. «Хоць бы раз у свой час адышла бы зіма!», «На далёк акіян убяжы ты, мароз!..» – гучыць просьба ў ягоным вершы «Сівер», выказаная з жаданнем, каб «устрапянуўся дух у чалавечай грудзі». Аднак мара пра яркія пейзажныя фарбы нарадзілася і жыла ў нашай паэзіі.

Сапраўдны культ вясны пануе ў беларускай паэзіі пачатку XX стагоддзя. Нашы класікі дасягнулі небывалага пранікнення ў свет роднай прыроды і тым самым сцвердзілі высокую эстэтычную годнасць нацыянальнага паэтычнага слова. Кожны з вялікіх нацыянальных паэтаў стварыў непаўторныя, вобразна-маляўнічыя карціны вясны. У іхняй паэзіі – ці мы возьмем Я. Коласа, ці Я. Купалу, ці М. Багдановіча – адчуваецца глыбокая і яркая асабовасць светаўспрымання, дасканалае валоданне выяўленчым майстэрствам, таму іх пяро з аднолькавым поспехам жывапісала і пейзажы – зімовыя, летнія, восеньскія. Але ў кожнага мастака, як і ў любога чалавека, ёсць свая любімая пара, і паэтызуецца яна пасаблівому прачула.

З непрыхаванай замілаванасцю апяваў вясновы свет Якуб Колас. Вясна – любімая пара паэта ад самага маленства. Прыход вясны абудзіў у ягонай душы паэтычны талент. Першы верш, як мы памятаем, так і называўся – «Вясна». Даўно ён прапісаўся ў дзіцячых чытанках і зборніках, абуджае адухоўлены, паэтычны позірк на вясновую прыроду: «Сонца грэе, прыпякае; Лёд на рэчцы затрашчаў...» Я. Колас спяваў пра вясну пяшчотныя лірычныя песні, складаў ёй гімны, маляваў яе ва ўсёй велічнасці, з эпічным размахам пачуццяў.



*«Адкуль прыйдзе вясна?!»*

*Фота Міколы ПІВАВАРА*

*Алесь БЕЛЬСКІ*

*(Працяг будзе)*





# І вырас храм ля гаючай крынічкі

***Спачатку была легенда пра двух сляпых старцаў, якія аднойчы пайшлі ў лес і заблукалі. Ужо вечарэла, лес агортваў змрок. Старцы адчулі вільгаць, якою дыхала зямля. Яны разгубіліся, сталі на калені і пачалі маліцца. Раптам пачулі паблізу цурчэнне вады, што струменіла з зямлі. Старцы ўсталі, памыліся той вадою – і ім адкрыўся свет Божы. Пераначаваўшы ля крынічкі, на золку яны ўбачылі паблізу на бярозе ікону Божай Маці. Старцы ўзялі яе з сабою і прынеслі ў сваю вёску Карытнае, што ў сучасным Асіповіцкім раёне, перадалі мясцоваму святару, які занёс ікону ў царкву той вёскі. А на наступны дзень людзі не ўбачылі іконы – яна знікла. Так паўтаралася некалькі разоў. Ікону знаходзілі ля той лясной крынічкі і прыносілі ў царкву, а яна зноў вярталася на ранейшае месца. Таму людзі сабралі грошы і пабудавалі (было гэта ў сярэдзіне XIX стагоддзя) драўляную царкву ў імя Божай Маці.***

У 1928 годзе, калі ішло ганенне на царкву, храм разбурылі, аднак ікона тая ацалела.

У пачатку 80-х гадоў мінулага стагоддзя, калі наблізіўся час адраджэння хрысціянскіх храмаў, пенсіянерка Яўгенія Фёдараўна Сідаровіч загарэлася задумай пабудаваць на месцы разбуранай царквы новую – у памяць іконы Божай Маці. Дванаццаць гадоў яна стукала ў дзверы чыноўнікаў у Магілёве, Мінску, нават Маскве – і дамаглася дазволу на будаўніцтва храма. У гады «развітога сацыялізму» гэта было вялікім дасягненнем.

З дапамогай шматлікіх вернікаў з тутэйшых і навакольных вёсак, якія збіралі грошы, пры падтрымцы Асіповіцкага гарвыканкама і райвыканкама справа пачалася добра. На будаўнічую пляцоўку завезлі патрэбныя матэрыялы, знайшліся і ініцыятыўныя падрадчыкі. Адным з іх была пенсіянерка, былая рабочая адной з рамонтна-будаўнічых арганізацый Ганна Аляксандраўна Іванова, якая без мужа вырасціла двух сыноў і ўжо мела ўнукаў. Дзевяць гадоў вяліся работы ля той крынічкі. Ганне Аляксандраўне добрую дапамогу аказала яе родная сястра Марыя Няверава. Яна ахвяроўвала штомесяц на храм частку сваёй пенсіі. Апрацоўчыя работы праводзіла пенсіянерка Марыя Пруднікава.

І вось 29 жніўня 1992 года царква ў імя іконы Божай Маці была адкрыта і асвечана. А паблізу над той славутай крынічкай быў адноўлены драўляны калодзеж.

...Мне давялося ў канцы снежня мінулага года наведацца ў Асіповічы, пазнаёміцца з настаўніцай Надзеяй Іванаўнай Кузьміч. Яна кіруе ў мясцовай школе клубам дзіцячага і юнацкага турызму, а таксама краязнаўства. Абаяльная і добразычлівая жанчына з захапленнем паведаміла, як летам мінулага года яна з мужам і чатырма вучнямі 7-га класа пайшлі пешшу ў паход да той царквы, за 30 кіламетраў. Надзея Іванаўна з хваляваннем дзялілася ўражаннямі аб унутраным убранстве храма, аб тым, як хлопчыкі, калі выходзілі з яго, набіралі ў вядро сцюдзёную крынічную ваду і абліваліся ёй з галавы да ног, не выціраючыся.

– Мы вярнуліся дамоў з таго паходу з душэўным спакоем, нейкія абноўленыя і паmaладзелыя, – узгадвала Надзея Іванаўна. – З жаданнем яшчэ раз наведацца да той крынічкі і пабываць у храме.



Яе распoвед, настрой перадаўся і мне, і я па рэкамендацыі Надзеі Іванаўны наведаўся ва ўзведзены пяць гадоў таму на ўскрайку горада праваслаўны храм. Усё яго ўбранства, іканастас, іконы ўразілі мяне да глыбіні душы.

***Міхась ТЫЧЫНА,***
***ветэран Вялікай Айчыннай вайны,***
***г. Слуцк***

*Рэгіянальнае краязнаўства*

# Бывальскія, або іхнія сяляне ў сярэдзіне XIX стагоддзя

***У інвентарных запісах фальварка Бывалькі (Рэчыцкі павет), складзеных 9 снежня 1846 года, адлюстраваны падзел сялянскіх гаспадарак на разрады ў залежнасці ад іх маёмаснага стану і зямельных надзелаў, вызначаліся памеры паншчыны і аброчных павіннасцей у вёсках Бывалькі і Цясны.***

***Інвентары – абавязковыя спецыяльныя кнігі ўліку пазямельнага і маёмаснага становішча прыгонных сялян, іх павіннасцей на карысць пана. Яны былі ўведзены царскім указам у памешчыцкіх маёнтках у сярэдзіне 40-х гадоў XIX стагоддзя. Складаліся і рэгулярна пераглядаліся самімі ўладальнікамі маёнткаў.***

Адпаведна інвентару, у вёсцы Бывалькі існавала 85 сялянскіх гаспадарак, дзе налічвалася 498 чалавек. У вёсцы Цясны інвентар адлюстраваў 41 сялянскую гаспадарку і 225 жыхароў. Усе сялянскія гаспадаркі падзяляліся на чатыры разрады ў адпаведнасці з іх пазямельным і маёмасным становішчам: цяглых, паўцяглых, агароднікаў і бабылёў.

Да цяглых належалі прыгонныя сяляне, якія надзяляліся сядзібнай, ворыўнай і сенакоснай зямлёй. Яны складалі, паводле мясцовых правілаў, пазямельнае цягла. Цяглыя гаспадаркі мелі ў карыстанні надзелы зямлі агульнай плошчай ад 13 дзесяцін або 14 гектараў (1 дзесяціна – 1,09 га) да 59 гектараў. Найбольшую плошчу мелі гаспадаркі Лук'яна Сямёнавіча Сінілы з вёскі Бывалькі, Марка Кома з вёскі Цясны, адпаведна 59 і 51 гектараў. Цяглых у вёсцы Бывалькі налічвалася 50 (59 %) гаспадарак, у вёсцы Цясны – 23 (56 %) гаспадаркі. Усе сялянскія гаспадаркі, аднесеныя да гэтага разраду, мелі цяглую жывёлу. У асноўным гэта былі валы, якіх на кожную гаспадарку прыходзілася ад 2 да 6. Па 6 валоў было ў Рамана Лук'янавіча Сінілы і Фёдара Дзям'янавіча Фядосенкі з Бывалек, Рыгора Савіча Таўкача з Цясноў.

Калі ў вёсцы Бывалькі налічвалася 126 валоў, то коней было, па інвентарных звестках, усяго 6, прычым толькі ў адной гаспадарцы Івана Антонавіча Сінілы з Бывалек налічвалася 2 кані. Вядома, што два кані маглі за дзень узараць адзін гектар, а два валы – толькі трэць гектара. Але валы мелі сваю перавагу: іх утрыманне абыходзілася для сялянскай гаспадаркі больш танна і яны былі больш вынослівыя.

Большасць цяглых сялянскіх гаспадарак мела 2–3 каровы, але ў асобных гаспадарках было і больш. Найбольшую колькасць – 8 кароў мела гаспадарка Сідара Майсеевіча Бракара з Цясноў.

Акрамя кароў, гадавалі і дробную жывёлу. У вёсцы Бывалькі 31 гаспадарка мела коз ад 2 да 5 на двор, 30 гаспадарак – авечак, з іх пераважная большасць ад 2 да 6 галоў, 28 гаспадарак – свіней ад 1 да 3 галоў, толькі гаспадарка Прохара Дзямідавіча Сінілы з Бывалек мела 4-х свіней. З авечак сяляне атрымлівалі воўну і аўчыну, якія ішлі на выраб адзення і абутку, свініна ж у асноўным прызначалася для харчавання саміх гаспадароў, але магла і прадавацца. Сяляне разводзілі таксама і свойскую птушку: курэй, качак, гусей, але найбольшае распаўсюджванне мелі гусі і куры.

Асобныя сялянскія сем'і мелі вуллі з пчоламі. У вёсцы Бывалькі і Цясны 5 сям'яў трымалі па 1–3 вуллі, і толькі сем'і Рамана Лук'янавіча Сінілы з Бывалек, Паўла Восіпавіча Рубана і Рыгора Савіча Таўкача з Цясноў мелі адпаведна 8, 17 і 29 вулляў.

Да другога разраду сялян паводле інвентару фальварка Бывалькі адносіліся паўцяглыя сяляне. У вёсцы Бывалькі налічвалася 26 (31 %) паўцяглых сялянскіх гаспадарак, у вёсцы Цясны – 9 (22 %). Большасць паўцяглых гаспадарак мела надзелы зямлі ў 14–15 гектараў, але асобныя з іх, такія, як Ігната Клімавіча Паўлюшчанкі з Бывалек і Міхаіла Рыгоравіча Стасько з Цясноў, мелі па 40 гектараў зямлі, але ў іх не было цяглай жывёлы. Звычайна ж паўцяглыя сялянскія гаспадаркі мелі або валочныя надзелы (валока – 21,36 га), без цяглай жывёлы, або валодалі толькі паўвалочным надзелам з адным валом або каровай у гаспадарцы.

Агароднікамі лічылі «тых сялян, якім перадаецца ад уладальнікаў толькі сядзіба ці дом з агародам і часткай сенакоснай зямлі, калі сяляне гэтага разраду трымаюць жывёлу».

Гаспадарак агароднікаў на вёсцы Бывалькі налічвалася 7 (8 %), а ў вёсцы Цясны не пазначана ні адной. Агароднікі валодалі надзелам зямлі ў 1–2 гектары пад агародамі і 3–7 гектараў пад сенажацямі, але не мелі сваёй рабочай жывёлы.

Бабылямі ці кутнікамі лічылі сялян або беззямельных, або бяздомных, «гэта значыць, якія не атрымалі ад уладальнікаў ані сядзібы, ані зямлі». Такіх у вёсцы Бывалькі налічваліся 2 (2,4 %) сям'і, у вёсцы ж Цясны – 7 (17 %) сем'яў. Напрыклад, селянін з Бывалек Якаў Пятровіч Савянок жыў адзін і нічога , акрамя хаты, не меў.

Пэўныя звесткі аб павіннасцях сялян фальварка на карысць графаў Юдзіцкіх дае зводная ведамасць па вёсцы Бывалькі за 1846 год. Яна сведчыць, што сяляне выконвалі змешаную рэнту: паншчыну (праца на панскай гаспадарцы) і даніну прадуктамі са сваёй гаспадаркі. Усяго за год мужчыны павінны былі адпрацаваць на пана 13 208 чалавекадзён, што ў сярэднім складае на тыдзень 254 чалавекадні, жанчыны – 16 192 або 308 чалавекадзён на тыдзень. У сярэднім на сялянскую гаспадарку прыходзілася 3 дні мужчынскай і 4 жаночай паншчыны. Але асобныя сем'і выконвалі большую паншчыну, у прыватнасці, сям'я Якава Пракопавіча Андрыянца з Бывалек, якая налічвала 12 чалавек і валодала 53 гектарамі зямлі, выконвала 16-дзённую паншчыну на тыдзень (6 мужчынскіх і 10 жаночых дзён).

У якасці даніны сяляне вымушаны былі бясплатна аддаваць пану за карыстанне надзелам зямлі пэўную колькасць жыта, ячменю, аўсу, сухіх грыбоў, яек, гусей, курэй і сена або іх грашовы эквівалент. На сялянскую гаспадарку прыходзілася ў год у якасці даніны 12,5 – 75 пудоў жыта, 2–7 пудоў ячменю і аўсу, столькі кілаграмаў сухіх грыбоў, ад 5 да 10 яек, ад 3 да 10 гусей, ад паловы курыцы да 10 курэй, ад 4 да 54 пудоў сена.

Безумоўна, значным цяжарам для гаспадаркі прыгонных сялян былі грашовыя падаткі і павіннасці на карысць дзяржавы. Умоўна іх можна падзяліць на дзяржаўныя падаткі, земскія і мірскія зборы. Але інвентар нічога нам не паведамляе аб памерах дзяржаўных павіннасцяў.

Зараз ёсць падставы меркаваць, што ў вёсцы Бывалькі ў сярэдзіне XIX стагоддзя жылі не толькі прыгонныя, але і вольныя людзі. Аб гэтым сведчыць той факт, што ў 1858 годзе жыхар гэтай вёскі Іван Антонавіч Самуйленка ахвяраваў на перабудову Свята-Троіцкай царквы ў вёсцы Дзяражычы 1 254 рублі ўласных грошай. На той час гэта была вялікая сума, якая прыкладна раўнялася выручцы, атрыманай ад продажу тавараў на лоеўскім Дзесяцінным кірмашы ў 1861 годзе. У інвентарным спісе прыгонных сялян фальварка Бывалькі гаспадаркі селяніна Івана Самуйленкі няма, таму ёсць падставы меркаваць, што гэты гаспадар быў або вольным селянінам, або старастам сялянскай абшчыны гэтай вёскі, які, магчыма, выкупіўся з прыгоннай залежнасці ад графаў Юдзіцкіх у адпаведнасці з царскім указам ад 20 лютага 1803 года. Паводле гэтага ўказа, памешчыкам дазвалялася вызваляць прыгонных паасобку ці сёламі з абавязковым надзяленнем іх зямлёй за выкуп па ўзаемнай дамоўленасці з памешчыкам. Але колькі было ў тыя часы вольных людзей у вёсцы Бывалькі, зараз сказаць нельга, бо аб гэтым няма гістарычных звестак.

Узнікае пытанне: «Якім жа быў далейшы лёс прыгонных сялян фальварка Бывалькі-Мікалаеўка?» З гістарычных крыніц вядома, што яшчэ ў 1832 годзе гэты фальварак быў закладзены Юдзіцкімі за даўгі ў Мінскім губернскім праўленні. У чэрвені 1848 года фальварак Бывалькі-Мікалаеўка (2 952 гектары зямлі з прыгоннымі сялянамі) выкупіла з публічных таргоў за 37 500 рублёў серабром княгіня Юлія Мікалаеўна Любавіцкая (народжаная Радзівіл).

19 лютага 1861 года Маніфестам імператара Расійскай імперыі Александра II прыгоннае права было адменена, сяляне мелі магчымасць выкупіць сваю надзельную зямлю ў памешчыкаў і атрымаць асабістую волю. 20 жніўня 1864 года 85 сялянскіх двароў вёскі Бывалькі атрымалі згодна выкупнога акта 2 257 гектараў зямлі, з іх 1 370 гектараў ворыва. Але за гэтую зямлю сяляне павінны былі ўнесці выкупную суму, якая складала 11 494 рублі, з разліку, што кожны год выкупныя плацяжы павінны складаць 689 рублёў 64 капейкі.

Само ж уладанне Бывалькі, якое налічвала 968 гектараў зямлі, 2 возеры, карчму і конны млын, пасля смерці княгіні Ю.М. Любавіцкай у 1872 годзе перайшло ва ўладанне Рэчыцкай дваранскай апекі, арэндавалася сялянскай абшчынай вёскі Бывалькі за 200 рублёў у год. Гэты фальварак неаднаразова выстаўляўся на аўкцыённы продаж, але толькі ў 1893 годзе па спецыяльным ўказе імператара Аляксандра III быў прададзены сялянскай абшчыне вёскі Бывалькі за 8 000 рублёў з умовай выплаты спачатку 2 000 рублёў, а затым на працягу 4-х гадоў – па 1 500 рублёў.

***Мікалай АНІСАВЕЦ,***
***старшыня праўлення Лоеўскага грамадскага аб'яднання «Карані»***





# Хто разгадае тайну каменнага крыжа?



Фота А. Хальцкай, вучаніцы 8 класа, Віцебскі раён

Даўно гэта было, мо тады, калі царква была ўніяцкая, а ў богаслужэнні ўжывалася і лаціна. Пахавалі на царкоўных могілках нейкага царкоўнага служыцеля. На магіле паставілі вычасаны з каменя крыж. З цягам часу крыж пачаў паглыбляцца і зусім знік у зямлі.

Прайшлі гады. На тым месцы, дзе стаяў крыж, вырасла дрэва. Яно састарэла і расшчапілася. І аднойчы мясцовыя хлопцы, якія ўжо доўгі час шукалі падземны ход, што вёў з царквы да Дзвіны, убачылі ў аснове расшчэпліны нейкі круглы камень. Спрабавалі яго дастаць, але камень не падаўся нават ад лому.

Праз пэўны час дрэва развалілася на дзве паловы і карэннямі выцягнула наверх той старажытны крыж. На ім, калі выпаў снег і запоўніў паглыбленні на каменнай паверхні, можна было прачытаць «hans А Д». Відавочна, «hans» – гэта прозвішча чалавека.

Нішто бясследна на зямлі не знікае, як і памяць аб людзях, якіх даўно ўжо няма на свеце.

**Маргарыта ЮШКЕВІЧ, Віцебскі раён**

*З бібліятэкі «КТ»*

# Любоўная драма на фоне гістарычным




Дзве вядомыя ў нашай краіне асобы, паэтэса Людміла Рублеўская і архівіст-краязнаўца Віталь Скалабан, нечакана праявілі свае здольнасці ў жанры гістарычнай драмы. Мо і не зусім нечакана, бо кожны з іх пасобку даўно стаў гісторыкам культуры. Адна – сваім паэтычным лірызмам, другі – дакладнасцю даследчыка-архівіста стварылі разам твор, глыбокі сваёй гістарычнасцю і... любоўнай лірыкай.

П'еса распавядае пра падзеі, што адбываліся ў Мінску і Бабруйску ў далёкія ўжо, але вызначальныя для Беларусі 1916–1918 гады, пра любоўную драму Людвікі Савіцкай (Зоські Верас) і Фабіяна Шантыра. Рэвалюцыйны фон тых падзей прымусіў аўтараў гістарычна дакладна іх адлюстраваць, прывёў да пошуку новых невядомых дакументаў той эпохі. Менавіта ўсё гэта і выкарыстана пры напісанні твора.

Добра, каб п'еса «Людвіка і Фабіян» была выкарыстана для пастаноўкі спектакля як на прафесійных, так і на аматарскіх сцэнах.

*Наш кар.*

# Ці ведаем мы Мінскі раён?



Ігар ТАТАЛЬСКІ

**(Першыя публікацыі ў №№ 6–7, 10–11)**

## *Маршрут 7*

**Мінск – урочышча Курапаты – Дроздава – Малінаўка – Лясны – Узбор'е – спарткомплекс Раўбічы – скрыжаванне дарог ля Астрашыцкага Гарадка**

**(Заканчэнне. Пачатак у № 12)**

Дарога ідзе праз густы лес на працягу амаль трох кіламетраў і нарэшце выходзіць на поле, за якім бачныя некалькі дамоў вёскі Узбор'е і вялікія масівы лецішчаў. Выходзім на асфальт і кіруемся налева па дарозе, да якой выходзяць выезды з лецішчаў справа і злева (многія дачныя масівы пабудаваны на месцы вялікіх кар'ераў). Дарога выводзіць нас на трасу Слабада – Радашковічы, справа, куды мы паварочваем, бачны высокі трамплін спарткомплексу «Раўбічы» і чырвоны дах раўбіцкага касцёла. Перад паваротам да спорткомплекса «Раўбічы» знаходзяцца тэнісныя корты. Іх агінае дарога, што вядзе да картынг-хола (ля дарогі стаіць указальнік). Пры ўездзе ў комплекс знаходзяцца аўтастаянка і кавярня. За шлагбаўмам ідзем па асфальтавай дарозе, якая неўзабаве стромка спускаецца ўніз да спартыўных стрэльбішчаў, размешчаных у даліне ракі Усяжы. Уздоўж ракі стаяць драўляныя катэджы. Аўтадарога прыводзіць нас да падэшвы слаламнай трасы і трампліnaў. Побач размешчаны гатэль № 1 з піцэрыяй. Троху далей уздоўж дарогі знаходзіцца крыты спартыўны комплекс, а за ім – гатэль № 2. На вяршыні пагорка вышынёй каля 40 м бачны касцёл з дзвюма гатычнымі вежамі. Да яго можна прайсці па асфальтавай дарозе, што крута ідзе ўгору каля двух малых трамплінаў. Касцёл быў узведзены ў 1858–1862 гг. у стылі неаготыкі на сродкі графіні Марыі Тышкевіч з Лагойска, у 1866 г. перароблены ў праваслаўную царкву, зачыненую неўзабаве пасля 1917 г. і разбураную пад час Другой сусветнай вайны. На шчасце, планы цалкам знішчыць пабудову не былі рэалізаваныя, і пры будаўніцтве ў сярэдзіне 1970-х комплекса «Раўбічы» будынак храма быў адрэстаўраваны і прыстасаваны пад этнаграфічны музей з цікавай экспазіцыяй, у якой прадстаўлены вырабы ткацтва, разьбярства, керамікі, саломапляцення XVI–XX стст. Спарткомплекс «Раўбічы» прапануе магчымасці актыўнага адпачынку, пракат спортінвентару, паслугі саўны і інш. (тэл. для даведак – (017) 507-44-47, 507-43-43).

Ад касцёла спусцімся да гатэля № 2. Асфальтавая дарога за ім вядзе да гатэля спартыўнага таварыства «Дынама» і далей выводзіць у вёску Аколіца, размешчаную па абодва берагі невялікага ручая, які цячэ да ракі Усяжы. Перайшоўшы на правы бераг гэтага ручая, кіруемся зноў да Усяжы і на крутым павароце асфальтавай дарогі сярод старых ліп на тэрасе стромкага пагорка бачым сцены згарэлага драўлянага дома. Ён быў цэнтрам сядзібы Раўбічы пана Собіка і сваімі вокнамі «глядзеў» акурат на касцёл. У савецкі час дом выкарыстоўваўся як клуб і нядаўна згарэў.

Далей пачынаецца вёска Раўбічы, якая амаль цалкам ператварылася ў катэджавы пасёлак.

Вёска цягнецца ўздоўж ракі Усяжы, якая паступова пашыраецца і ператвараецца ў штучнае Дубраўскае вадасховішча, цераз якое зроблены мост. Па процілеглым беразе вадасховішча можна вярнуцца ў спарткомплекс «Раўбічы». Абодва берагі вадаёма актыўна забудоўваюцца катэджамі.

Вярнуцца ў Мінск можна аўтобусам з прыпынка «Раўбічы» каля спарткомплекса, але аўтобусы тут ходзяць рэдка. Можна зрабіць апошні, амаль 3-кіламетровы, пераход па аўтадарозе да скрыжавання трасы Слабада – Радашковічы са старой дарогай Мінск – Лагойск. Тут, каля Астрашыцкага Гарадка, у гонар геаічнай абароны Мінска ў канцы чэрвеня 1941 г. на магіле палеглых у гэтых баях 104 воінаў 100-й стралковай дывізіі, якой камандаваў генерал-маёр І.М. Русіянаў, у 1956 г. пастаўлены помнік – танк Т-34.

На кальцавым скрыжаванні знаходзіцца прыпынак аўтобусаў Лагойскага напрамку ў бок Мінска.



*Старая капліча на могілках у Астрашыцкім гарадку*



*Рэшткі палаца на ўзгорку (в. Раўбічы)*





# Шануйце самабытнасці крыніцу!..

*Без чаго нельга ўявіць гэты свет?.. Канечне, без цёплых і лагодных праменьчыкаў сонца, без высокага блакіту неба і маўклівых аблокаў, без гарэзлівага ветру і шапатлівай травы, без матухны-зямлі, без сцюдзёнай крынічнай вады, а яшчэ – без дрэў.*

Мудрыя, разгалістыя волатыдубы, стройныя прыгажуні-бярозы, высокія таполі, гаманлівыя сосны ды задуменныя елкі... Спакон вякоў дрэва было неад'емнай часткай духоўнай і матэрыяльнай культуры нашага народа. Драўляная хата, драўляная калыска, драўляныя цацкі, драўляныя прылады працы, драўляная труна... Таму і не дзіва, што да дрэва беларусы заўсёды адносіліся з асаблівай пашанай.

Гэта праяўлялася па-рознаму. Напрыклад, праз забарону. Нельга было знішчаць старыя, але моцныя дрэвы, якія ва ўсе часы лічыліся жывымі сведкамі мінуўшчыны, а таксама добрымі памочнікамі і дарадцамі для чалавека. І цяпер гавораць, што, калі пастаяць, прыхіліўшыся да дуба, ён перадасць частку сваёй станоўчай энергіі, умацуе цела і дух. Не дазвалялася ссякаць дрэвы, якія адзінока растуць у полі. І хоць такія забароны амаль ніколі афіцыйна не былі ўзаконены, людзі стараліся іх прытрымлівацца, бо парушэнне лічылася альбо грахом, альбо прадвесцем хуткага няшчасця.

Пра павагу беларусаў да дрэў яскрава сведчыць і вусная народная творчасць. Яе скарбонку складае шмат песень, дзе галоўнымі вобразамі з'яўляюцца дуб, каліна, сасна, вярба, надзеленыя чалавечымі якасцямі:

*Ой, у полі два дубочкі,*
*Схілылыся вэрхі до купочкі.*
*Воны сэдзілы паміж каліною,*
*Говорылі мэжду собою...*

*Верба, верба,*
*дзе ты росла,*
*Шо твое лісця*
*вода ўнесла...*

Не цяжка зразумець, пра якія «дубочкі», «каліну» і «вярбу» тут ідзе гаворка. Падобныя песні, дзе дрэва ўжо выступае ў якасці параўнання, і сёння можна пачуць у палескіх вёсках на Століншчыне:

*Шуміць-гудзе сосоночка,*
*Плача-тужыць дзівчынононька...*
*Чого дуб нэ зэлёны?*
*Тэбэ туча ўбіла.*
*Козак нэ вэсёлы,*
*Бо ліха годзіна...*



Схілілася дрэва, глядзіцца ў люстэрка вады...

Акрамя песень, у народзе існуе багата легендаў. Адна з іх распавядае пра незвычайны колер бярозы. Калісьці даўным-даўно размалёўваў Бог дрэвы. Апошняя чарга падыйшла да бярозы. Засталася толькі адна белая фарба. Паколькі было яе няшмат, атрымалася бяроза белаю з чорнымі крапінкамі і палоскамі.

А яшчэ без дрэва не магла абыйсціся ні адна сялянская гаспадарка. Драўляныя прылады працы і транспартныя сродкі (вазы, сані) заўсёды былі незаменнымі ў паўсядзённым жыцці людзей. А як можна ўявіць самабытнасць матэрыяльнай культуры беларусаў без дубовых і ліпавых бочак, альховых боек, біклаг і барыл, лазовых карабаў?..

Волаты-дубы, прыгажуні-бярозы, таполі, сосны ды елкі... Колькі іх на Беларусі?.. Давайце шанаваць і захоўваць гэтых жывых сведкаў гісторыі, крыніцу нашай самабытнасці!..

***Ігар ГРЭЧКА***
*Фота аўтара*

# Завядоўцы

Нашы радзішынскія жанчыны, як і ў кожнай вёсцы, заўсёды любілі спяваць – і на хрэсьбінах, і на вяселлі, і на лузе ў сенакос, і ў полі ў жніво. Асабліва ж вечарам: ідуць з лугу, з поля, і на задорны, звонкі, галасісты іхні спеў лес адгукаецца рэхам.

Бывала, што на вяселлі ці вечарыне нехта з жанчын зацягне песню з вельмі доўгай, працяглай мелодыяй. Тут жа яе перабіваюць:

– Ну, запела ўжо, як завядоўцы!

Чуў такое неаднойчы. Зацікавіла мяне: а хто ж такія завядоўцы? Аказваецца, так працягла спяваюць у суседніх Чарапах, Карзееве ды іншых вёсках. Радзішынскія жанчыны на застоллях, у полі спявалі песні з карацейшай мелодыяй, у больш хуткім рытме. А на вячорках, асабліва пасля вясельнай хмельнай чаркі, найбольш сыпалі прыпеўкамі:

*Міша мой, Міша мой,*
*А я Мішава.*
*Міша кофтачку купіў,*
*А я вышыла.*

У кнізе «Памяць. Шклоўскі раён» знайшоў звесткі пра тое, што вёскі Плешчыцы, Нічыпаравічы, Чарапы, Азер'е, Патапава, Ладыжына ў канцы XVIII стагоддзя былі ва ўласнасці графа П. Завадоўскага. Ён меў хор прыгонных сялян. Відаць, што песні спявалі шматгалосныя, працяглыя. Па тым часе ён зваўся хорам Завадоўскага. Рэпертуар працяглых песень трывала ўкараніўся, стаў нормай, а потым і традыцыяй. Жанчыны з вышэйназваных вёсак рэдка выходзілі замуж у іншыя, суседнія вёскі, прыносілі туды песенны скарб сваіх бацькоў і дзядоў. Звалі іх – завадоўцы, а з цягам часу за тое, што заводзяць доўгую мелодыю, пачалі зваць іх завядоўцамі, замяніўшы ў найменні літару «а» на «я».

***Віктар АРЦЕМ'ЕЎ,***
*г. Магілёў*



*Менестрэлі на рыцарскім фэсце (справа – Зміцер Сідаровіч, стваральнік гурта «Камэлот»)*
*Фота Ігара ПРАКОФ'ЕВА*

**Традыцыі і сучаснасць**

# Расчароўвацца рана

«А&K» – «Аўтаномная навігацыя». Мн.: «West Records», 2006.

Вельмі часта артыст у сваім творчым лёсе, дасягнуўшы пэўнага поспеху, пачынае асэнсоўваць свой шлях як пэўны ўзор для далейшых дзеянняў (нібыта каб множыць поспехі), а насамрэч пачынае паўтарацца, стымулюючы толькі паглыбленне крызісу. Для многіх сусветных зорак надзвычай вызначальным у гэтым аспекце становіўся трэці альбом, які паказваў, наколькі калектыў будзе жывучы.

У беларускага кантры-дуэта «А&K» поспехаў было нямала: у 2000 годзе гэты калектыў з Барысава стаў пераможцам тэлевізійнага фестывалю «Зорная ростань», што дало ім 100 гадзінаў гукасесій у дыхтоўнай студыі Белдзяржтэлерадыёкампаніі, якіх хапіла на запіс цудоўнага дэбютнага альбома «За ліхімі за марозамі» («Каўчэг», 2001). Потым былі перамогі на фестывалях фальклорнай і дарк-уэйв музыкі ў Польшчы, Украіне, Літве, Казахстане, кліпы ў тэлеэфіры розных краінаў Еўропы і... выхад другога альбома «Сойка» («Master Records», 2003). Тое, што абодва рэлізы мелі стабільны поспех, растлумачвае і лёгкую перамогу барысаўчан у нацыянальным адборачным туры знакаміта га поп-фестывалю «Еўрабачанне», калі Беларусь упершыню выршыла заявіць аб сабе і сваёй песні на ўвесь свет. Выпрабавальнікамі сталі «А&K», а пасля іх вяртання фірма «West Records» выпускае дыск «Мой Галілей. Лепшае» (2004). Гэта зборнік, назву якому дала раскручаная па ўсёй Еўропе фестывальная песня.





Пакуль рыхтаваўся чацвёрты дыск, па краіне папаўзлі чуткі, нібыта дуэт расчараваўся ў прабіўной сіле беларускай песні, таму наступны альбом будзе шматмоўным. Гэта непакоіла мяне асабліва, бо я быў яшчэ не гатовы расчароўвацца любімым калектывам. Я б дараваў ім усё, нават эксперыменты ў якім-небудзь экстрэмальным музычным стылі, але толькі не здраду таму, што ўжо амаль дзесяць гадоў вядзе іх па дарогах поспеху – беларускай песні.

І вось напрыканцы зімы ў сталічным клубе «Класік» для журналістаў адбылася прэзентацыя новага альбома. Яго вырашана было назваць «Аўтаномная навігацыя» (паводле карціны барысаўскага мастака Сяргея Лагачова, якая ўпрыгожыла вокладку і мультымедыйную частку выдання).

Першая высноўа: прэч расчараванні. «А&K» працягвае развівацца, не спыняючы творчы пошук акурат у беларускім рэчышчы. Памятаючы мягкасць фарбаў іхняй музыкі, магу засведчыць, што яна захавалася, але «Аўтаномную навігацыю» я назваў бы самым рокавым іхнім альбомам. Не, яны пакуль не эксперыментуюць з экстрымам, але ў рытміцы, у танальнасці песень з'явіліся надзвычай цёплыя ноткі, праз якія песні набываюць вагу дансантнасці, гэта значыць прыдатнасці да сучасных клубных танцаў. «А&K» смела ідуць на пераасэнсаванне нават знакамітых фальклорных песень. Зусім новую музыку вы пачуеце ў творах «Ой рана на Івана», «Калядачкі, нашы нежачкі», «А дзе была вуціца», «Святы вечор» (гэта ёсць нават сярод кліпаў дыска), а ў трэку «Ду-ду, да-да» перапляліся кельцкія, іспанскія і беларускія («Саўка ды Грышка») мелодыі.

Што да шматмоўнасці, дык плёткі пацвердзілі толькі песні-лаўрэаты прэстыжных еўрапейскіх фестываляў: «Antilope» на літоўскай мове, «Kalino-Malino» на адным з польскіх дыялектаў і некалькі англійскіх узораў («Stairs of Separation», таксама ў кліпе).

Калі ўвесь альбом запісваўся ў студыі Генадзя Сыракваша «X-Noise factory» (сярод памагатых – сапраўдныя экстра-мегазоркі нашай сцэны Алесь Сапега, Віктар Малчанаў, Масуд Талібані ды іншыя), дык польская песня – у студыі Андрэя Плясанава «P.L.A.N.». Знакаміты блюзмен нават сыграў у ёй на некалькіх перкусійных інструментах (глякі, драўляныя кіёчкі), хоць пра апошняе выдаўцы чамусьці забыліся напісаць.

Наапошку варта дадаць, што ў сваім пошуку дансантных фарбаў «А&K» (гэта, нагадаю, Аляксандра Кірсанава і Канстанцін Драпеза) не спыніліся на пацяпленні рытмічнага малюнку твораў. Каб задаволіць моду на дзіджэйскія фарматы, яны ўключылі ў альбом аж тры рэміксы сваіх самых знакамітых песень: «Юр'я», «Мой Галілей» і «Пара дамоў».

***Вітаўт МАРТЫНЕНКА***

# Праваслаўе на Случчыне

***Здаўна жывуць у Слуцку прадстаўнікі розных нацыянальнасцяў і веравызнанняў. Найбольш адметнымі групамі насельніцтва былі тыя, што спавядалі праваслаўе, каталіцызм, рэфармацкія веравучэнні, іудаізм. Мы паспрабуем зрабіць кароткі агляд слуцкай мінуўшчыны ў плоскасці этна-канфесіянальнай гісторыі краю.***

## Звесткі далёкіх часоў

Праведзеныя на Слуцкім замчышчы ў 1984–1985-я гг. раскопкі дазволілі археолагу Лявону Калядзінскаму прыйсці да высновы, што тут у XII ст. стаяла мураваная царква. Гістарычныя крыніцы сведчаць, што на працягу практычна ўсёй гісторыі горада на тэрыторыі Верхняга замка (былога дзядзінца) знаходзіўся гарадскі праваслаўны Успенскі сабор. У XV–XIX стст. ён быў драўляны. А ў 1885 г. замест драўлянага Успенска-Мікалаеўскага з'явіўся мураваны Мікалаеўскі сабор.

Акрамя замкавай, будаваліся цэрквы на пасадзе і прадмесцях. Ад пачатку ўваходзілі слуцкія цэрквы ў склад Тураўскай епархіі.

Пачынаючы з 1502 г. Случчына не раз падвяргалася нападам крымскіх татар. Пасля іх гаспадарам краю прыходзілася адбудоўваць горад. Тэрыторыя Слуцка пашыралася, расло насельніцтва. Напрыканцы XVI ст. у горадзе жыло прыкладна 7 тысяч чалавек, напрыканцы XVII ст. – каля 9 тысяч. Тады аднаўляліся пацярпелыя ад ворага храмы, узводзіліся і новыя. У 2-й пал. XVI ст. у Слуцку можна было налічыць 10 праваслаўных прыходскіх і 2 манастырскія царквы.

Слуцкія князі Алелькавічы, якія валодалі Случчынай з канца XIV да пачатку XVII ст., былі аднымі з самых магутных апекуноў праваслаўя ў Вялікім княстве Літоўскім. Некаторыя прадстаўнікі іх роду пахаваны ў Кіева-Пячэрскай лаўры, апошняя прадстаўніца роду Алелькавічаў княгіня Сафія Слуцкая далучана да ліку святых. Пад іх уладай Праваслаўная царква на Случчыне мела моцныя пазіцыі. Калі ў 1596 г. была абвешчана унія – аб'яднанне Праваслаўнай і Каталіцкай цэркваў пад вяршэнствам Рыма, усе прыходы горада і краю яе не падтрымалі. З ліку слуцкіх святароў толькі адзін выказаў згоду, і яго уніяцкі мітрапаліт Міхаіл Рагоза назначыў у Слуцк сваім намеснікам. Але перад гэтым святаром мяшчане зачынілі гарадскую браму і не пусцілі ў горад. З тых часоў спробы пашырыць унію на Случчыне поспехаў не мелі.

## Царква і мастацтва

Практычна ўсе слуцкія цэрквы былі драўляныя. Іх, манастырскіх, прыходскіх, прыпісных і невялікіх надбрамных, у Слуцку XVII ст. можна было налічыць 20, а ў XVIII ст. – 23. Будаўніцтва храмаў у горадзе і краі, неабходнасць аздабляць іх сталі прычынай развіцця рэгіянальнай Слуцкай архітэктурна-мастацкай школы. Росквіт яе прыйшоўся на XVII–XVIII стст. Як сведчаць апісанні, узводзіліся цэрквы розных тыпаў, але агульнай іх прыкметай стала яруснасць аб'ёмаў. Двух- або трох'яруснымі былі і царкоўныя купалы. На пачатку XX ст. кіраўнік Мінскага царкоўна-археалагічнага музея Андрэй Снітка (1866–1920) вывучаў помнікі слуцкай старасвеччыны. Калі заходзіў у старыя цэрквы, асаблівую ўвагу звяртаў на іканастасы, дзівіўся мастацтву старадаўніх майстроў разьбы па дрэве. А нямецкі мастацтвазнавец Альберт Іпель, калі ўбачыў стары разны іканастас слуцкай Юр'еўскай царквы, назваў яго сапраўдным вянком беларускага мастацтва, красой беларускіх цэркваў. Акрамя разьбы, развівалася мастацтва апрацоўкі металу – чаканіліся і гравіраваліся абклады для абразоў і кніг, адліваліся і апрацоўваліся царкоўны посуд, крыжы, званы. Квітнела ткацтва і залаташвейнае мастацтва, над рукапіснымі кнігамі працавалі перапісчыкі і ілюстратары, мастакі пісалі абразы.

## Праваслаўны цэнтр

Цэнтрам праваслаўнага жыцця краю быў Троіцкі манастыр. Слуцкаму архімандрыту падпарадкоўваліся гарадскія Прэабражэнскі (да 1620 г.) і Ільінскі манастыры, а таксама Іаана-Багаслоўскі і Мікалаеўскі манастыры ў мястэчку Грозава, Старчыцкі Петра-Паўлаўскі, Морацкі Успенскі.

На кароткі перыяд, з 1596 г., калі праваслаўнай Кіеўскай мітраполіі, у склад якой тады ўваходзілі слуцкія цэрквы, у выніку абвяшчэння уніі не стала, і да 1620 г., калі яна была адноўлена, слуцкія архімандрыты, фармальна знаходзячыся ў юрысдыкцыі канстанцінопальскага патрыярха, фактычна засталіся самастойнымі царкоўнымі кіраўнікамі на падуладнай ім тэрыторыі. А з 1659 г. слуцкія архімандрыты сталі намеснікамі кіеўскага праваслаўнага мітрапаліта, тады ж у манастыры быў створаны кіруючы орган – духоўная кансісторыя. Аўтарытэт слуцкіх іерархаў быў высокі. У 1678-м архімандрыт слуцкага Троіцкага манастыра Феадосій Васілевіч быў высвечаны ў сан епіскапа Беларускага і Магілёўскага, а з 1700 г. гэтую пасаду займаў слуцкі архімандрыт Серапіён Палхоўскі. З сярэдзіны XVIII ст. гаспадарамі краю былі каталікі Радзівілы. Яны не толькі добразычліва ставіліся да сваіх падуладных праваслаўных вернікаў, але і імкнуліся выкарыстаць вагу Слуцка ў праваслаўным асяроддзі на сваю карысць. Князь Геранім Фларыян Радзівіл, напрыклад, дазволіў архімандрыту Міхаілу Казачынскаму перанесці ў 1755 г. у Троіцкі манастыр мошчы святога Гаўрыіла Беластоцкага (Заблудаўскага), што пашырыла вядомасць манастыра. Князь Караль Станіслаў Радзівіл у 1784 г. прыкладаў дыпламатычныя намаганні, каб зрабіць слуцкіх архімандрытаў кіраўнікамі ўсіх праваслаўных цэркваў Літвы і Польшчы. Тым больш, што падстава была – на працягу паміж першым (1772) і другім (1793) падзеламі Рэчы Паспалітай, калі Магілёўская праваслаўная епархія апынулася ў межах Расійскай імперыі, Слуцк зноў заставаўся галоўным цэнтрам праваслаўя ў Рэчы Паспалітай.

У 1785 г. па ініцыятыве архіепіскапа Беларускага і Магілёўскага Георгія Каніскага ў Слуцку была заснавана епіскапія. Першым епіскапам стаў назначаны ў 1783 г. архімандрытам Троіцкага манастыра Віктар Садкоўскі. Епіскап Віктар адразу прыступіў да працы па арганізацыі Мінскай епархіі. Пры ім завяршылася адбудова раней разбуранай муравай царквы Троіцкага манастыра, палепшыўся стан шэрагу гарадскіх цэркваў, пры гарадскім Праабражэнскім манастыры ў 1785 г. заснавана «Набожная Слуцкая праасвяшчэннага Віктара Садкоўскага семінарыя». Напрыканцы стагоддзя семінарыя была перанесена ў Троіцкі манастыр і неўзабаве, у сувязі з арганізацыяй у 1793 г. Мінскай епархіі, стала называцца Мінскай.

## Пертварэнне ў правінцыю

Паволі, на працягу XIX ст., царкоўнае значэнне Слуцка змяншалася. З Троіцкага манастыра ў Мінск перамясціліся епіскапская кафедра і духоўная кансісторыя (хоць адзначым, што манастыр заставаўся фактычным месцам знаходжання мінскіх архіепіскапаў да 1840 г.). У 1840 г. у Мінск перавялі духоўную семінарыю. Напрыканцы 1860-х гг. і першакласны слуцкі Троіцкі манастыр перавялі ў Мінск, а на яго месцы дзейнічаў трэцякласны Іаана-Багаслоўскі, які да таго быў у мястэчку Грозава.



*Слуцкі Троіцкі манастыр на малюнку Н. Орды*

На працягу XVIII ст. колькасць жыхароў Слуцка змяншалася. Калі ў 1712 г. жыло 8 тысяч чалавек, то да пачатку XIX ст. было ўжо менш 4 тысяч. Праваслаўныя вернікі на працягу XIX ст. складалі прыблізна 40 % жыхароў. Змяншалася і колькасць гарадскіх праваслаўных храмаў. Цэрквы з малалікімі прыходамі прыпісваліся да буйнейшых, іншыя цэрквы не аднаўляліся пасля пажараў або, калі станавіліся састарэлымі, разбіраліся. У канцы XIX ст. у горадзе меліся тры прыходскія цэрквы, тры прыпісныя, Мікалаеўскі сабор і Трайчанскі манастыр (як вядома, Троіцкі манастыр перавялі ў Мінск, на яго месцы быў Іаана-Багаслоўскі. Тым не менш, па традыцыі ў горадзе яго называлі Троіцкім, а ў тагачаснай літаратуры выкарыстоўвалася назва «Трайчанскі» з-за размяшчэння манастыра на Трайчанскім прадмесці). Слуцкага мужчынскага Прэабражэнскага манастыра не стала ў 1797 г., жаночы Ільінскі закрылі ў 1854 г.

Тым не менш царкоўнае жыццё не спынялася. У 1867 г. у манастыры на змену драўляным келлям пабудавалі мураваны двухпавярховы жылы корпус, у 1870 г. з'явілася надбрамная Іаана-Багаслоўская царква. У 2-й пал. 1880-х гг. былі ўзведзены мураваныя гарадскі Мікалаеўскі сабор і будынак духоўнага вучылішча. На пачатку XX ст. Трайчанскі манастыр быў ужо першакласным. У 1910 г. было створана слуцкае вікарыянства з месцам размяшчэння вікарнага епіскапа, якім стаў настаяцель гарадскога сабора Мікалай Шэмеціла, у Троіцкім манастыры. У 1922 г. на Мінскім памесным саборы было прынята рашэнне аб заснаванні новых беларускіх епархій, у тым ліку Слуцкай.

## XX стагоддзе

Да заняпаду царкоўнага жыцця прывяла разгорнутая савецкай уладай атэістычная барацьба. У 1925 г. закрылі Троіцкі манастыр, у 1930 г. спыніліся службы ў былой манастырскай Троіцкай царкве. Па сфальсіфікаваным абвінавачванні ў 1933 г. быў арыштаваны слуцкі епіскап Мікалай Шэмеціла, а праз год узарваны Мікалаеўскі сабор. Дзейнічала толькі Варварынская царква на могілках. Іншыя закрылі. З іх Юр'еўская, Васкрасенская, Раждзественская ў розныя часы згарэлі, Стэфанаўскую разабралі. На працягу 1930 – 1960-х гг. разбураліся будынкі Троіцкага манастыра.

Пад час Вялікай Айчыннай вайны аднавіліся службы ў Міхайлаўскай царкве, якая пазбегла разбурэння таму, што знаходзілася на ўскраіне – на прадмесці Востраў. Яе не закрылі і пасля вайны. Але ў 1956 г. згарэла Варварынская царква, таму ў горадзе застаўся адзін адкрыты храм.

Цяпер царква Міхаіла-Архангела (помнік архітэктуры XVIII–XIX стст.) мае статус сабornага храма. Яго настаяцель протаіерэй айцец Міхаіл Вейга з'яўляецца благачынным Слуцкай праваслаўнай царкоўнай акругі. Ён жа і галоўны рэдактар духоўна-асветніцкай газеты «Преображение», што выдаецца пры храме. На царкоўным пляцы на пачатку 1990-х гг. узведзены мураваныя будынкі капліцы (іконнай лаўкі) і адміністрацыйна-асветніцкага цэнтра, дзе размясціліся хрышчэльня, бібліятэка, дзіцячая нядзельная школа. У 1993 г. на вуліцы Максіма Багдановіча з'явіўся яшчэ адзін праваслаўны храм, асвечаны ў гонар Кузьмы і Дзям'яна, настаяцелем якога з часу заснавання служыць протаіерэй айцец Мікалай Коржыч. На сёння падрыхтаваны праект будаўніцтва гарадскога сабора, архітэктурны комплекс якога павінен размясціцца ў цэнтры горада. Усяго ў Слуцкім раёне (разам з горадам) дзейнічаюць дванаццаць праваслаўных абшчын. Уваходзяць слуцкія цэрквы ў склад Мінскай праваслаўнай епархіі, кіраўніком якой з 1978 г. з'яўляецца Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх Усяе Беларусі Філарэт. Прысутнасць у тытуле Уладыкі слова «Слуцкі», як бачым, з'яўляецца не выпадковым – вытокі Мінскай епархіі ідуць са Слуцка – горада, у якім праваслаўныя традыцыі не перапыняліся ніколі.

***Ігар ЦІТКОЎСКІ,***
***г. Слуцк***

## «Сем цудаў Беларусі»

***На наш заклік («КГ», № 12 (125) за гэты год) назваць прыярытэтныя помнікі краіны ў намінацыі «Сем цудаў Беларусі» першымі адгукнуліся мінскія экскурсаводы З.А. Бондарава, Т.А. Герлоўская, Т.І. Рэшэцько, С.І. Мачарашвілі.***

***Такім чынам, друкуем першыя «сямёркі».***

*1. «Біблія» Ф. Скарыны*
*2. Слуцкія паясы*
*3. Статут ВКЛ 1588 г.*
*4. Барыса-Глебская (Каложская) царква*
*5. Нясвіж*
*6. Полацк (з яго гістарычнымі збудаваннямі і знакамітымі людзьмі).*

1. Камянецкая вежа (яе не знішчылі за 729 гадоў)
2. Гродна (унікальны збор архітэктурных помнікаў)
3. Віцебск (М. Шагал, К. Малевіч, І. Рэпін, Ж. Алфёраў)
4. Мір
5. Навагрудак – сталіца ВКЛ
6. Нясвіж
7. Слонім – Жыровіцкі манастыр

*1. Нясвіж*
*2. Белавежская пушча*
*3. Крыж Ефрасінні Полацкай*
*4. Возера Свіцязь*
*5. Барыса-Глебская (Каложская) царква*
*6. Камянецкая вежа*
*7. Праспект Незалежнасці (Ф. Скарыны)*

Шаноўныя чытачы-краязнаўцы, чакаем вашых прапаноў. Дапамажыце нашай дзяржаве вызначыцца з каштоўнасцямі, якія б маглі ўпрыгожыць Спіс сусветнай спадчыны.

***Рэдакцыя «КГ»***

### У тэатры «Зьніч»

Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра «Зьніч» **3 красавіка** запрашае ўвечары на монаспектакль **«Мой Маленькі прынц»** паводле казачнай аповесці А. Сэнт-Экзюперы (у перакладзе Н. Мацяш). Артыстка Алена Шапко запросіць у незвычайную вандроўку па патаемных куточках чалавечай душы.

**10 красавіка ўдзень** тэатр прапануе філасофскую казку С. Кавалёва **«Маленькі Анёлак»** паводле вершаў Кармэн Барнос дэ Гаштольд. Выканаўца Раіса Астрадзінава прапануе гісторыю, калі Анёл спусціўся на зямлю, каб знайсці самую слабую жывёлу... Прымаюцца калектыўныя заяўкі.

**Увечары 10 красавіка** заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Ларыса Горцава запрашае на паэтычны монаспектакль **«Прыпадаю да нябёс...»**, у аснову якога леглі творы Яўгеніі Янішчыц. Выканаўца паспрабуе выявіць свет мрояў і светлых жаданняў.

Па дадатковую інфармацыю можна звяртацца па мінскіх тэлефонах 231-75-53, 615-26-79.

### *Ад дзядзькі Антося*




## Пра лецішчы і не толькі пра іх

### Пакінутыя дамы

Нават здзівіўся, нядаўна гледзячы па еўрапейскім тэлебачанні перадачу пра стан вёсак, іхніх гаспадарак за мяжой. Нямала з'язджала, з'язджае і там моладзі з вёсак у гарады, застаецца пакінутых дамоў. Але там такі ад'езд стабілізаваўся. Адпаведна, Еўрасаюз напалову «ўрэзаў» кампенсацыяю за аднаўленне пабудоў, і гэта засмуціла тых насельнікаў, хто застаўся ў вёсцы, браў льготныя крэдыты, а цяпер мусіць іх хутчэй вяртаць.

У нас справа інакшая, бо пакінутых дамоў больш чым удосталь. Хто атрымаў домік у спадчыну, але не жадае пакідаць горад і жыць у вёсцы, у каго з былых гаспадароў няма блізкіх нашчадкаў і інш. Наколькі ведаю, у нас дзяржава не прадугледжвае аднаўляць састарэлыя («ветхие») пабудовы, але цяпер папярэджвае, што не будзе цярпець такі стан. На пачатку сёлетняга лютага быў падпісаны Указ Прэзідэнта, па якім сельскія, пасялковыя, гарадскія выканкамы павінны выявіць усе састарэлыя пабудовы і даць тэрмін (не больш года) уладальнікам, каб прывесці сядзібу ў належны стан. Калі уладальнік не паслухаецца, то выканкам мае права ацаніць стары дом і падаць у суд, каб пазбавіць уладальніка дома і зямельнага ўчастка. Пазбаўленне можа быць выкупам ці пасля публічнага продажу.

Што выйдзе з гэтага, невядома. А што да рэестра «састарэлых дамоў», то ў яго будуць уключацца дамы, дзе на працягу апошніх трох гадоў жывуць у сукупнасці менш месяца і ўладальнік пісьмова не паведаміў у выканкам пра свае далейшыя адносіны да ўласнасці. Адпаведна, уладальнікі да 1 ліпеня б.г. павінны вызначыцца (праўда, ёсць і пэўныя ільготы для тых, хто пераведзены на іншую работу, хто на вайсковай службе і інш.).

### «Састарэлы» дом

Гэта – такая пабудова, што знаходзіцца ў вёсцы і прызнана не адпаведнай санітарна-тэхнічным нормам ці непрыгоднай для пражывання, а таксама, калі да 1 студзеня 2007 г. і кожнага наступнага календарнага года будуць дадзены, што дом безгаспадарчы.

### Лецішчы

Не сакрэт, што многія ў нас іх будуюць гадамі. Па новых правілах такога ўжо не павінна быць. Адзін з Указаў Прэзідэнта («О некоторых мерах по сокращению незавершённых строительством незаконсервированных жилых домов, дач») даводзіць, што калі ўжо ёсць дачны надзел, то будаўніцтва павінна быць закончана да 1 красавіка 2009 г. Калі ўчастак будзе выдзелены цяпер, то на яго засваенне даецца 3 гады (тэрмін па ўважлівых прычынах мясцовы выканаўчы камітэт можа і падоўжыць). Нашчадкі надзелаў, на якіх будаўніцтва не вядзецца, таксама маюць 3-гадовы тэрмін для заканчэння яго. Ёсць магчымасці зрабіць кансервацыю. Праўда, не для тых, чые надзелы ў межах 500 м ад рэспубліканскіх дарог. Адным словам, асцерагайцеся, каб ад вас за вышэйзгаданыя і іншыя парушэнні не забралі недабудаваны дом, лецішча і зямельны надзел. Праўда, вам тое-сёе перападзе, але за вылікам выдаткаў на работу ацэншчыка і арганізацыю аукцыёна.

### *Колькі лічбаў пра нас:*

*– цяпер у Беларусі прыкладна 6 мільёнаў чалавек (61,6 працэнта ад агульнай колькасці насельнікаў), якія лічацца працаздольнымі;*

*– 1,7 мільёна (17,2 працэнта ад агульнай колькасці насельнікаў) – дзеці да 15 гадоў;*

*– у нашых гарадах працаздольнае насельніцтва складае 65,8 працэнта, у сельскай мясцовасці – 51.*

## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Пачатак у № 1 за 2003 г.)***

**ВАРАГІ** – усходнеславянская назва тых, хто паходзіў з Паўночнай Еўропы і Скандынавіі «эпохі вікінгаў» (прыкладна з 2-ой пал. IX да 1-й пал. XI ст.). Упершыню яны ўпомнены каля 859 г. як зборшчыкі даніны на землях крывічоў. Лічыцца, што адзін з першых вядомых князёў Полацка Рагвалод (960–970 гады) быў выхадцам з варагаў, хоць вылучаліся, выказваюцца і іншыя думкі – у прыватнасці, пра тое, што той Рагвалод – славянін. Полацк падтрымліваў цесныя сувязі з варагамі, пра што сведчыць частае ўпамінанне яго ў старажытна-скандынаўскіх апісаннях. Сведчанні ўзаемасувязяў ёсць і ў археалагічных матэрыялах. Шырокавядомы тэрмін «з варагаў у грэкі», але пра гэта пазней.

**ВАРГАН** (варганіца, вурган) – народны самагучальны язычковы музычны інструмент. Падковападобны жалезны варган мае паралельна падоўжаныя канцы, паміж якімі праходзіць прымацаваны пасярэдзіне галоўкі язычок (тонкая стальная пласцінка з загнутым канцом). Пры ігры варган заціскаецца зубамі або прыціскаецца да іх. Рот выкарыстоўваецца як рухомы рэзанатар. Язычок зашчыпваюць указальным пальцам правай рукі. Калі язычок вібрыруе, узнікае бурдон (фр. густы бас). Невялікі дыяпазон варгана абмяжоўвае рэпертуар музыкантаў простымі песеннымі і танцавальнымі мелодыямі. Найбольш раннія звесткі на Беларусі пра варган адносяцца да XII ст. (археалагічныя знаходкі ў Друцку). У народнай музычнай творчасці варган выкарыстоўваўся яшчэ ў XIX ст.



*Варган*

**ВАРОНКА ЯЗЭП** (Іосіф Якаўлевіч; 16.04.1891, Сакольскі павет – 1952) – грамадскі і палітычны дзеяч. Да 1914 г. вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце. З 1917 г. у Беларускай Сацыялістычнай Грамадзе, член яе ЦК. Быў у складзе Часовага Савета Расійскай Рэспублікі (Перадпарламента), камісар юстыцыі і ўнутраных спраў Вялікай Беларускай Рады (кастрычнік-снежань 1917 г., Мінск). Браў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні Усебеларускага з'езда 1917 г. У лютым-ліпені 1918 г. старшыня Народнага сакратарыята Беларусі і народны сакратар замежных спраў. Адзін з ініцыятараў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. У снежні 1918 – красавіку 1920-га міністр беларускіх спраў і член кабінета міністраў Літвы. Лідэр Беларускай партыі сацыялістаў-федэралістаў. З лістапада 1922 г. старшыня таварыства «Беларуская грамада ў Каўнасе». У 1923 г. выехаў у ЗША, дзе ўдзельнічаў у рабоце розных беларускіх эміграцкіх суполак, напісаў шмат розных гісторыка-публіцыстычных твораў па гісторыі і культуры Беларусі.

**ВАРОТЫ** – шырокі праём у сцяне ці плоце для праходу альбо праезду. Закрываюцца жардзінамі альбо створкамі. На Беларусі вядомыя з даўніны. У панскіх сядзібах пасля XV ст. прыгожа аздабляліся. У сучасны момант вароты шырока распаўсюджаныя як у вёсках, так і ў гарадах. У кожным рэгіёне створкі аздабляюцца з мясцовымі асаблівасцямі.

**ВАРШАЎСКАЯ АПЕРАЦЫЯ** 1920 г. – аперацыя войск Заходняга фронту 23 ліпеня – 25 жніўня ў час савецка-польскай вайны 1920 г. з мэтай узяцця Варшавы і «распалення ў Еўропе сусветнай рэвалюцыі». Наступленне пачалося з мяжы Гродна–Слонім–Пінск. Часці Заходняга фронту (камандуючы М. Тухачэўскі) 13 жніўня наблізіліся за 23 км да Варшавы, што выклікала ў ёй вялікую трывогу. Урад і Ю. Пілсудскі разгарнулі шырокую патрыятычную агітацыю, паабяцалі сялянам аграрную рэформу, атрымалі пастаўкі зброі ад Антанты, што дазволіла значна павялічыць польскую армію і яе сілу. Ужо 14 жніўня нечакана яна перайшла ў контрнаступленне. За тыдзень Чырвоная Армія адступіла на лінію Ліпск–Свіслач–Брэст.

Паражэнне Чырвонай Арміі прывяло да заняцця, як тады казалі, белапалякамі Мінска, паўплывала на ўмовы Рыжскага мірнага дагавора 1921 г., па якім урад Савецкай Расіі адкупіўся ад Польшчы аддачай часткі заходніх зямель Беларусі і Украіны, некаторых тэрыторый Літвы.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета
Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с. Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары дописаў у рэдакцыю паведамляюць свае прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас. Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 30.03.2006. Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7. (Ліцэнзія ЛП № 02330/0056609 ад 27.02. 2004 г.) Заказ 530. Тыраж 1540.